Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 23 (77) Нядзеля, 7-га Чэрвеня 1925 г. м. Вільня. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць адзін раз у тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 80 гр.
" " 3 " 2 зл. 40 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka, 1 „Hotel Sokołowskiego" pokój № 26. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр. у тэксьце — 10 гр. на апош. стар. — 5 гр.

## Сумныя рэзультаты.

Ужо год мінуў, як пачаліся гутаркі аб аздараўленьні (sanacji) палажэньня на ўсходніх рубяжох Польшчы, ці кажучы йначай аб вырашэньні беларускага і украінскага пытаньня ў Польскай Рэспубліцы.

Нажаль аж да сягоньняшніх дзён гэтыя гутаркі засталіся толькі гутаркамі. З адстаўкі быўш. міністра пасла Тугута і яго цяперашніх заяваў у прэсе відаць, что нашыя цьвярджэньні аб адсутнасьці ў ураду выразнае якой-нібудзь праграмы па нацыянальным пытаньні ня былі дарэмнымі. Пану Тугуту, будучы міністрам, прышлося праўды кажучы, таўчы ваду ў ступе, ці йначай — тварыць розныя бюрократычныя й бясьсільныя проекты ў палітычным камітэце рады міністраў, падавацца ў адстаўку, браць яе назад і г. д.

Што выйшла з гэтак званага „школьнага плебісцыту" аб беларускіх і украінскіх школах?

Адказаць прыходзіцца проста: нічога добрага ня выйшла. А ня выйшла таму, што той ці іншы валасны войт, той ці іншы школьны павятовы інспэктар часта-густа рабіў ня так, як трэба паводлуг закону. Сягоньня мы друкуем паведамленьне нашага корэспондэнта аб дзейнасьці ў гэтай справе п. нясьвіскага школьнага інспэктара. Ці-ж гэта ня прыкры факт бясправўнага дзеяньня гэтага інспэктара і ці хто-нібудзь хаця-бы ўвагу зьвярнуў на гэткую яго дзейнасьць? Ці знайшоўся той, хто падумаў-бы аб страшэннай шкоднасьці падобнай дзейнасьці для таго гаспадарства, слугой якога п. інспэктар, як урадовец зьяўляецца?

Справа настаўніцкіх беларускіх курсаў зрабілася ўжо проста нейкаю прытчаю, дзе ўсё гаварылася так, а разумець прыходзіцца саўсім іначай.

Прыпамінаем урачыстае выступленьне на настаўніцкім беларускім зьезьдзе ў сьнежні 1924 г. самога **куратара** віленскага школьнага вокругу п. Гонсёроўскага, які літаральна сказаў сабраным на зьезьдзе ў большасьці безработным беларусам-настаўнікам: *„Урадам насяленьню будзе дана такая школа, якой яно само зажадае"*...

А зусім нядаўна міністар прасьветы й рэлігійных вераваньняў п. Станіслаў Грабскі сказаў беларускай дэлегацыі ў Вільні, што школы маюць быць у нас утраквістычныя, г. знач. двумоўныя, ня гледзячы на тое, што закон 31 ліпня 1924 г. аб арганізацыі школьніцтва ясна кажа, пры якіх варунках усё таго-ж самага „школьнага плебісцыту" магчыма ў даным абводзе школа утраквістычная а пры якіх — чыста нацыянальная; утраквістычнай па закону ў тым ці іншым абводзе мае быць школа тады, калі апрача 40 дэкляарацыяў аб беларускай школе ў гэтым самым абводзе будзе зложана ня менш, як 20 дэкляарацыяў, аб польскай школе.

Хіба можа, жадаючы выслужыцца перад п. міністрам, (дарэчы сказаць гарачым староньнікам утраквізму), п. нясьвіскі школьны інспэктар і стараецца арыгінальным способам знайсьці патрэбныя для утраквістычнай школы 20 бацькоўскіх дэклярацыяў.

Усё гэта было-б сьмешна, каб не выглядала гэтак сумна, каб не вытварала таго дзікага настрою ў нашым сялянстве, аб якім піша наш нясьвіскі корэспондэнт. А настрой гэты зводзіцца да рашэньня сялян не пасылаць сваіх дзяцей да ніякае наагул школы, не баючыся законных за гэта штрафаў.

Якая-ж тут санацыя, калі колькімесячнае ўрадаваньне п. Тугута спэцыяльна ў кірунку гэтае санацыі скончылася, нарэшце, адстаўкаю яго па прычыне нясілы што-нібудзь конкрэтнае зрабіць.

Болей сумны рэзультат трудна навет і выдумаць. І трэба сказаць, што дасюлешнія способы аздараўляньня гэтак званых крэсовых адносін, способы пісаньня дарэмных проектаў у крэсовай сэкцыі палітычнага камітэту рады міністраў толькі папсавалі справу, ані не палепшыўшы яе. Бо дакуль вольна будзе кожнаму тутэйшаму вураднікў ня лічыцца з законам, датуль будзе глухое незразуменьне беларускім насяленьнем бясспрэчнага факту істнаваньня яго, прызнаных з вышыні законадаўчых уладаў, нацыянальных правоў.

Гутаркі аб аздараўленьні крэсаў павінны пэратварыцца ў дзела. Аздараўленьне гэтае павінна быць праведзена па зусім яснай і выразнай праграме, бяз ніякай самаволі хоць-бы аднаго валаснога войта, хоць-бы аднаго школьнага інспэктара, якія павінны быць змушаны да непарушаньня закону.

А калі закон будзе устанаўляць адзін парадак рэчаў, а справа будзе ісьці іншым парадкам, дык ад цяперашняга свайго сумнага палажэньня яна ніколі да іншага рэзультату і не дайдзе.

У Варшаве павінны зразумець усю прыкрасьць цяперашніх рэзультатаў крэсовай санацыі і пачаць гэту санацыю ў кірунку сапраўднага задаваленьня нацыянальных патрэбаў насяленьня, паставіўшы неадпаведных вураднікаў на іх належнае месца.

## Палітычны агляд.

Бесканечныя перагаворы між Англіяй і Францыяй па пытаньню аб захаваньні міру ў Эўропе маюць гэткі рэзультат, што выясьнілася ўрэшце пазыцыя Англіі, якая дагэтуль была ня зусім выразнай. Ангельскі ўрад заявіў Францыі, што Англія гатова бараніць францускую граніцу, калі-б здарыўся напор з нямецкага боку, але што датычыцца граніцаў Польшчы і Чэхаславакіі, дык яна іх а ні думае бараніць. Калі-ж бы Францыя захацела даць падмогу сваім усходнім саюзьнікам, Англія перашкаджаць ня будзе. Гэткім чынам Англія хоча захаваць поўную свабоду дзеі, калі-б загарэлася вайна. Англія, як вялікая дзяржава, ня можа сябе зьвязваць паасобнымі пытаньнямі, сочачы за разьвіцьцём сусьветных падзеяў. Урэшце гэта патрэбна й дзеля яе калёніяў, ад якіх яна цяпер дужа залежыць і бяз згоды якіх ня можа прыняць ніякай важнай пастановы. Дыкжа галоўным чынам пад націскам калёніяў Англія адмовілася падпісаць жэнэўскі пратакол, які галоўнай сваей мэтай меў абарону эўропэйскага міру.

Калі кінуць вокам на мінуўшчыну, дык пабачым, што Англія ніколі ня зьвязвала сябе цесна з нейкай дзяржавай, як напр. Францыя, якая, дзякуючы свайму географічнаму палажэньню, больш патрабуе бязупыннай падмогі. І ў той час, як напр. Францыя, Аўстра-Вэнгрыя, Італія ды інш. эўропэйскія дзяржавы, каб лепей бараніць свае граніцы або пачаць агрэсыўныя крокі ўступалі ў цесны хаўрус, Англія ўвесь час захоўвала незалежнае палажэньне. Навет перад самай сусьветнай вайной Расея і Францыя добра ня ведалі, ці Англія будзе ісьці з імі. А з другога боку і Нямеччына, ведаючы добра традыцыйную палітыку Англіі, таксама думала, што яна адразу не пачне ваяваць разам з Францыяй і Расеяй, бо не пачынала-б вайны, дзеля таго, што гісторыя паказвае, што перамога заўсёды на старане таго, з кім ідзе Англія. Гэтак быў разьбіты Напалеён, гэтак-жа ў Крымскай вайне была пераможана Расея. У расейска-японскай вайне таксама Англія падтрымоўвала Японію. Але Англія гэтак энэргічна і актыўна выступіла ў мінулай вайне толькі дзеля таго, што гэтага вымагалі яе ўласныя інтарэсы. Хаця прынята думка, што вайна пачалася за Эльзас і Лётарынгію, але ўзапраўды повадам вайны была сусьветная конкурэнцыя Нямеччыны і Англіі. Нямецкі ваенны і гандлёвы флёт супернічаў з ангельскім, Нямеччына захапляла сусьветныя рынкі і навет пачынала выпіраць Англію з яе ўласных калёніяў. І перамога над Нямеччынай была пытаньнем аб істнаваньні Англіі. Па дагавору з Францыяй Англія павінна была ў часе вайны выставіць экспэдыцыйны корпус з 3-х дывізіяў. Дый наагул ад Англіі не спадзяваліся вялікай падмогі на сушы, дзеля таго, што яе армія была наёмная і надта малая. Але калі немцы адразу рухнулі праз Бэльгію да ангельска-францускага каналу, дык яны мелі двайную мэту: адрэзаць Францыю ад Англіі і, абыйшоўшы левы фланг францускай арміі, захапіць Парыж. Калі Англіі пачала пагражаць беспасрэдная небясьпека, дзеля таго,

